1928 г. на сьпіску № 41, з катарага і прайшоў у Сойм. Але ў Сойме здрадзіў справу беларускага народу, перайшоў у клюб „Змаганьне“ разам з каторым увесь час шкодзіў беларускай справе. Беларускай работы ніякай не рабіў. Наадварот, у Сойме галасаваў проці прызнаньня грошаў на будоўлю дому Беларускае Гімназіі ў Навагрудку. Калі што рабіў, дык заўсёды выступаў проці беларусаў, але не выступаў проці палякоў.

**Верамей.** Чалавек у беларускай працы зусім няведамы. Наадварот, ведамы з таго, што будучы ў Празе ад 1922 г., там увесь час сьвядома шкодзіў беларусам. Сваёй уласнай, самастойнай думкі ня мае, дык годзіцца адно на тое, каб сьлепа выпаўняць чужыя загады. Відаць дзеля гэтага яго й паставілі на сьпіску.

**Мікалай Марцінчык.** Ведамы з працэсу Белар. Сял.-Раб. Грамады, як „незачэпны“ для ўлады. Сьведкі з боку пракуратуры казалі аб ім таксама, як аб Б. Тарашкевічу, С. Раку-Міхайлоўскім і іншых; але Марцінчык ня толькі ня быў засуджаны на 6 год катаргі, але ня быў ані суджаны, ані навет арыштаваны. Калі ўлетку 1928 г. уладамі быў зроблены разгром Т. Б. Ш., Марцінчык на сходзе Галоўнае Управы клікаў, каб „пяць замкоў павесіць на беларускай гімназіі“. З гэтага ясна, чаго спадзявацца ад такога пасла, калі-б прыпадкам праскочыў у Сойм.

# „Сьвятая“ рэвалюцыя ў Індыі.

Як мы і прадбачылі, так легкаважаная сьпярша англійскімі ўладамі „авантура Ганді“ператвараецца ў вялізарны ахопліваючы ўсе колы насяленьня 300-мільёнавага краю, шырока-народны рух „пасыўнага праціўленьня“, у запраўдную рэвалюцыю, пагражаючы поўным выгнаньнем з Індыі захапіўшых яе англійцаў.

Мінулы месяц красавік зьявіўся якраз рашаючым ў-ва ўсей гэтай „авантуры“.

2 сакавіка Ганді з 70 бліжэйшымі сваімі прыхільнікамі распачаў свой „паход“ на бераг мора, каб захапіць там, калі ўдасца, казённыя салярні, або распачаць незаконны выбар солі з марское вады, дэманстрацыйна гвалцячы гэтак закон аб саляной манаполіі, а тым самым дэманстрацыйна выказваючы „цывільную непаслухмянасьць“ англійскім уладам...

5 красавіка Ганді, прайшоўшы 300 кілямэтраў у працягу 24 дзён, дайшоў да мора і пачаў вырабляць „кантрабандную соль“ з марское вады. І зараз-жа ўся нацыянальная прэса разьнясла па ўсім краю загад Ганді аб тым, што 6-га красавіка распачынаецца масавае нарушэньне саляной манаполіі.

Масавае нарушэньне салянога закону выклікала такое масавае тасаваньне англійскімі ўладамі ў Індыі судовых і адміністрацыйных караў. А прысуды і кары судоў і „меры“ адміністрацыі проці павадыроў „салянага руху“ няўхільна пачалі выклікаць па ўсім краю хваляваньне народных масаў, завастраючы іх варожасьць да англійскіх уладаў і выклікаць вострыя, а чым далей, тым больш крывавыя сутычкі з паліцыяй і войскам.

У цэлым радзе вялікшых і меншых местаў вялізарнага краю — у Калькуце, Мадрасе, Бамбэі, Пэшавары, Лягоры, Чыталенгу і т. д. — пачаліся напады таўпы, якая бараніла сваіх павадыроў ад судоў і паліцыі. Напады, зразумела, адбіваліся аружжам. А гэта — так сама, зразумела, выклікала далейшае завастрэньне барацьбы з боку зразумеўшага свае права і сваю сілу народу: хутка зьявіліся сярод таўпы і арганізаваныя баёўкі, азброенныя аружжам... І вось, ужо каля месяца йдзе ў Індыі запраўдная рэвалюцыйная барацьба народу з англійскімі ўладамі, барацьба, у якой усе лагодныя спосабы пасыўнага праціўленьня, усе сьвятыя загады і правілы прарока Ганді забываюцца цалком, а кроў цячэ ўжо ракой...

А гэта — затым, што ў рух увайшлі адразу больш актыўныя сацыяльныя клясы, а ў першую чаргу — кляса работніцкая.

Адразу — на першы сыгнал Ганді, як запаленыя электрычнай іскрай, пачалася ў-ва ўсіх вялікіх прамысловых асяродках краю шырокая хваля работніцкіх забастовак, ярка ахварбаваная проціанглійскімі настроямі. 11-га сакавіка выбухлі выступленьні работнікаў у Бамбэі, 16-га — у Калькуце. Саюз чыгуншчыкаў пастанавіў падрыхтаваць агульную забастоўку — у паразуменьні з іншымі работніцкімі аб'яднаньнямі. За чыгуншчыкаў — выступілі аб'яднаныя работнікі тканіннай прамысловасьці. Урэшце 19 сакавіка Цэнтральны Работніцкі Саюз Індыі паставіў на чаргу дня справу агульнай забастоўкі ў-ва ўсей Індыі!

Аб характары і шырыні руху даюць паняцьце наступныя факты. Падаем толькі найбольш характэрныя з масы газэтных вестак.

У м. Сенгуйце пад суд аддадзены—за арганізацыю „непаслухмянасьці законам і ўладам“ сам... галава места — разам з сябрамі магістрату. Народ кінуўся вызваляць засуджанага з рук паліцыі. У выніку сутычкі — 100 раненых, у тым ліку — 30 паліцыянтаў. Толькі выкліканае войска здолела разагнаць таўпу. А новыя выбары ізноў аддалі амаль не цалком мяставую раду ў рукі „гандістаў“...

У Калькуце старой сталіцы Краю—на груньце тэй-жа акцыі „пасыўнуга і лагоднага спраціву“— адбыліся 1 красавіка сутычкі з паліцыяй, у выніку якіх — 60 забітых і раненых прыватных асоб і — гэтулькі-ж паліцыянтаў... Бой адбыўся запраўдны — з барыкадамі і кулямётамі!.. На чале байцоў — работнікі і студэнты...

Асабліва завастрэньне барацьбы пачалося ад 6 красавіка — пасьля другога сыгналу і загаду Ганді. На пляцах вялікіх і малых местаў краю пачаліся публічна вялізарныя дэманстрацыйныя нарушэньні салянога закону. У Бамбэі, напрыклад, нацыянальны камітэт—у прысутнасьці паўмільённай таўпы народу—спаліў адбітак закону і кінуў попел у мора, паказуючы гэтым, што закон цалком скасаваны ўжо воляй народу.

Кожны дзень дае ўсё новыя і новыя сутычкі і бaі паміж народам і ўладамі—паліцыяй ды войскам.

У вялікім месьці Карачы таўпа кінулася на вастрог, каб звольніць арыштаваных павадыроў; у выніку было — звыш 60 раненых, у тым — 15 паліцыянтаў.

У Чытагонгу таўпа, у якой верхаводзіла ўжо баёўка анархістаў, захапіла склад аружжа, вагзал, паліцэйскія пастэрункі і ўсе іншыя установы. Войску прышлося рабіць правільную асаду, каб узяць назад места.

Далучыліся да руху анархісты-тэрорысты і ў Лягоры, дзе знойдзены склад бомб.

Побач з тым у байкотную акцыю проці-англійскіх вырабаў уцягіваюцца прадстаўнікі найвышэйшай інтэлігенцыі краю. Так у м. Гаўра арыштаваны 30 асоб за тое, што „вартавалі“ каля крамаў, каб ніхто не купляў англійскіх тканінаў, а сярод іх—рэктар мясцовага унівэрсытэту і некалькі яго прафэсароў.

Алё найбольш крывавыя падзеі здарыліся ў вялікім месьце Пэшавары 24 красавіка.

Трэба ведаць. што —пад уплывам усіх гэтых неспадзявана вострых здарэньняў—англійскія ўлады пачалі траціць раўнавагу. 21 крас. віцэ-кароль выдае дэкрэт, дазваляючы адміністрацыйным уладам накладаць бяз суду кары. Самі англійскія газэты пішуць, што гэтым у краі фактычна ўводзіцца асаднае палажэньне. — Газэты дадаюць, што гэтае асаднае палажэньне — неабходнае, бо фактычна — пад акцыяй пасыўнага спраціву — працуе ўжо плянова — шырока раскінутая па ўсім краю рэвалюцыйная арганізацыя. Дык і меры проці яе патрэбны надзвычайныя!..

Дык вось, у Пэшавары—каб пастрашыць народ—па месту езьдзілі бранявікі з гарматамі і кулямётамі. Але народ ужо страціў страх. Таўпа кінулася неспадзявана на 2 такія бранявікі, абліла іх бэнзынам і спаліла жыўцом сядзеўшых у іх англійскіх жаўнераў...

Гэтыя два здарэньні — у Чытагонгу і ў Пэшавары—выклікалі вялізарны водгук у краі і — ў Лёндане!...

Ганді заявіў; відаць з усяго, што „ў краі ёсьць шмат людзей, якія ня вераць у магчымасьць дабіцца сваіх правоў без тасаваньня насільстваў“... Але — дадаў—„цяпер ужо няма што рабіць: спыніць барацьбу ня можна — трэба іcьці да канца“... Акцыя проці салянога закону будзе спынена толькі тады, калі будзе спынены самы закон“. Як бачым, ад „сьвятога“ Ганді асталося вельмі мала...

У Лёндане—у выніку перапуду —зараз-жа— прыняты меры:

1. у дадатак да тых 75.000 англійскіх жаўнераў, якія Англія мае ў Індыі на 300 з вялікім лішкам мільёнаў тамтэйшага насяленьня. — выслана яшчэ 15 000 — „пакуль што“;

2. з вострава Мальты некалькі вялікіх бранянносных крэйсэраў сяродземнаморскай эскадры сьпешна высланы — праз Суэц — у галоўныя парты Індыі;

3. з найбліжэйшай базы паветранага флёту выляцела ў Індыю дадаткова сільная эскадра аэрапляпаў.

Як пішуць англійскія газэты, гэтыя меры прысьпешаны адмовай Індускіх Войск выконываць загады Англійскіх Камандзіраў. Ці трэба дадаваць, што адмова індускіх жаўнераў датычыла страляньня ў сваіх братоў — індусаў па камандзе англійцаў?!

Каб завяршыць кароткі агляд апошніх здарэньняў у Індыі, трэба дадаць што англійскі віцэ-кароль выдаў толькі-што страшэнна жорсткі „прэсавы дэкрэт“, які ўводзіць паліцэйскую цэнзуру, маючы мэтай, як піша англійская прэса, задушыць усю „гандіскую прэсу“, пазбавіўшы гэтым увесь рух магутнага чыньніка агітацыі...

Усе гэтыя меры ўжо значна расхістанай англійскай улады толькі глыбей топяць яе павагу ў Індыі. Яркім довадам гэтага зьяўляецца сэнсацыя апошніх дзён: адкрыты ліст былага гарачага прыхільніка паразуменьня з Англіяй, старшыні індыйскага парлямэнту (байкатаванага гандістамі) Пателя, які піша:

„Апошнія выпадкі разбілі дарэшты мае спадзяваньні на тое, што англійская адміністрацыя можа калі-небудзь зьмяніць свае звычаі і спосабы ўрадаваньня і гаспадараваньня ў краі. Дык я пастанаўляю зрэтуль парваць усялякія адносіны з англійскім урадам і стануць на чале барацьбы майго народу за яго вызваленьне“.

Ліст гэты, распаўсюджаны ў мільёнах лістоў, пэўне-ж здолеў абмінуць усе платы і грэблі англійскай цэнзуры.

Як бачым, англійская саляная манаполія, якая гэтулькі „насаліла“ індусам, робіцца ўжо вельмі „салонай“ і англійцам...

Утрымацца надалей такі зьненавіджаны ўсім краем закон, ясна-ж, ня можа. Але лёгка зразумець, які ўздым пачуцьця ўласнай праўды і сілы дасьць Індыі яе першая перамога над акупантам-чужынцам...

За першым крокам пэўне-ж наступяць далейшыя — аж да тэй поўнай перамогі, ідэал якой ужо зусім ясна і рашуча пастаўлены Агульна-Нацыянальным Кангрэсам Індыі.

Характэрна дадаць, што маскоўскія камуністы абвясьцілі ўсю гэтую акцыю „нацыяналістычна-буржуазнай авантурай“, а таму і — „контр-рэвалюцыйнай“... Індыйскаму пралетарыяту быццам высланы з Масквы загад вясьці рашучую барацьбу з акцыяй Нацыянальнага кангрэсу проці ўлады віцэ-караля, акцыяй у якой гэткае чыннае ўчасьце прынялі як-раз работніцкія масы Індыі.

* * *

Як даведываемся ў апошні мамэнт Ганді па загаду англійскага ўраду арыштаваны.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Гаспадарчае, сацыяльнае і палітычнае палажэньне.

Галоўнай тэмай у польскай прэсе зьяўляецца гаспадарчы крызіс, які дайшоў да нячуванай вострасьці, і зьвязаная з ім пагроза сацыяльных забурэньняў у краі. Яркім выяўленьнем гаспадарчага крызісу зьяўляецца застой таварнага руху, а з ім—нябывалае зьмяншэньне чугункавага руху. Яшчэ ў студні прэм. Бартэль гаварыў публічна аб сталым узросьце гэтага руху на чыгунках Польшчы, а цяпер міністэрства камунікацыі выдала два цыркуляры, загадываючы як мага эканоміць у руху цягнікоў, абмежываць іх лічбу і вагонаў, звальняць лішніх працоўнікаў і г. д.

Рух на чыгунках—заўсёды найлепшы паказчык гаспадарчага здароўя краю. А вось лічбы гэтага паказчыка ў Польшчы: 50.000 вагонаў—з адпаведнай лічбай паравозаў—стаяць бяз руху; каля 40.000 працаўнікоў-чыгуншчыкаў—звольнены, пазбаўлены працы. Лёгка сабе ўявіць, якія настроі пануюць сярод чыгуншчыкаў, роля якіх наагул у дзяржаўным жыцьці, а асабліва ў часе забурэньняў яго—вялізарная.

Паважныя апазыцыйныя газэты падчырківаюць, што ў такіх варунках, калі на чаргу дня высоўваецца, як „ударная задача“,—змаганьне з гаспадарчым крызісам,—трэба было-б у склад ураду ўвесьці якраз найбольш знаўцаў гаспадарчых справаў, а найменш—„палітычна-баявых“ асобаў, якія з гаспадарчымі справамі ніколі дагэтуль ня мелі дачыненьня. А перадусім—ня можна ў такіх небясьпечных варунках завастраць небясьпечную барацьбу, асабліва—барацьбу паміж найгалаўнейшымі дзяржаўнымі ўладамі і ўстановамі, як урад і законадаўчыя палаты. А тым часам барацьба паміж урадам і Соймам якраз пагражае новым завастрэньнем. Востры асабісты канфлікт паміж мін. справядлівасьці Царам і адным з галоўных павадыроў „цэнтралеву“, паслом Лібэрманам, яшчэ балей завастрыў гэтыя адносіны.

Соймавыя партыі рыхтуюцца як да прадаўжэньня барацьбы ў гэтым Сойме, таксама і да новай выбарнай кампаніі. Але ніхто ня ведае, што зробіць урад. Ідуць самыя рознародныя весткі і чуткі, падхопляныя і пашыраныя газэтамі. Пішуць, быццам—як толькі Сойм падасьць п. Прэзыдэнту падрыхтаваную ўжо „цэнтралевам“ пэтыцыю аб скліканьні надзвычайнай сэсіі парляманту, дык адразу Сойм будзе распушчаны. Пры гэтым—паводле аднэй вэрсіі—новыя выбары будуць зроблены толькі на вясну 1931 году, паводле другой—выбары будуць вызначаны ў прадбачаны Канстытуцыяй тэрмін—праз 90 дзён пасьля роспуску гэтага Сойму.

Пэтыцыя, да якое гэтымі днямі пастанавілі далучыцца так-жа нацыяналісты, мае быць пададзена ў першых днях гэтага траўня. Тады яшчэ ў траўні Прэзыдэнт павінен будзе склікаць Сойм, або—Сойм будзе распушчаны... Адным словам, палажэньне мае быць высьветлена ў найбліжэйшыя дні.

Вялікай вагі здарэньнем у палітычным жыцьці Польшчы зьявілася аб'яднаньне польскіх сялянскіх партыяў, якое выклікана імкненьнем стварыць адзіны супольны сялянскі фронт дзеля палітычнай і сацыяльнай барацьбы, а наўперад—у часе выбарнай кампаніі. Аб гэтых мэтах выразна кажа аднамысная пастанова трох сялянскіх соймавых клюбаў: „Вызваленьня“, „Пяста“ і „Сялянскай Партыі“, прынятая прадстаўнікамі іх на супольным паседжаньні 16.IV. Усе тры партыі—в. варожа настроены да ўраду і яго палітыкі, і аб'яднаньне іх скіравана выразна проці „пасьлямаёвага ладу“ і клясы абшарнікаў, якія маюць в. паважны ўплыў на ўладу—навет пасьля выхаду з складу ўраду п. п. Мэйштовіча і Незабытоўскага.

Станкевіча нас не запужае і мэты сваей не дасягне. Мы, як дагэтуль, так і далей будзем клікаць выбаршчыкаў Лідзкага вокругу да галасаваньня за сьпісак грам. Янкі Станкевіча (№ 45) і будзем раскрываць народу вочы на тое, каго праводзіць у Сойм ксяндзоўская „васемнастка“.

# Карэспандэнцыі.

## Перадвыбарныя настроі.

Шмат у якіх кутках Лідзкага выбарнага вокругу несьвядомыя беларускія сяляне кажуць, што ў дзень 25 мая яны зусім ня будуць галасаваць, бо, як кажуць, іхнія выбранцы—паслы нічога добрага ім не зрабілі.

Падобныя гутаркі зусім няправільныя. Калі мы хочам дабіцца сабе палёгкаў у нашым гаротным жыцьці, дык канечне трэба ўсім, як аднаму, ісьці на выбары і іншых заахвочваць.

Праўда, дагэтулешняе парлямантарнае прадстаўніцтва з нашых земляў надта мала нам дало. Ды зусім гэта натуральна, бо ў папярэдніх выбарах з прычыны нашае несьвядомасьці беларускімі галасамі праходзілі ў Сойм у пераважнай большасьці чужынцы, каторыя сьвядома працавалі на нашу загубу. А беларускіх паслоў было замала, каб яны маглі што паважнейшае зрабіць.

Вось-жа павіннасьцяй кожнага Беларуса і ёсьць галасаваць толькі за беларускі сьпісак, тагды была-б большая лічба нашых паслоў, і маглі-б яны ў Сойме мець дужэйшы голас. Дык дзеля гэтага першай нашай павіннасьцяй ёсьць ні даць ніводнага голасу за чужыя сьпіскі, як „Стронніцтво Хлопске“ (№ 10), „Вызваленьне“ (№ 3), „P. P. S.“ (№ 2) і ўсякія іншыя, бо ўсе гэтыя сьпіскі сьведама працуюць на нашую згубу. Гэтыя сьпіскі падчас выбараў, каб ашукаць масы, прамаўляюць да іх нават у беларускай мове, але ведайце, калі паночкі з гэтых спіскаў робяцца ўжо пасламі, дык у Сойме галасуюць проці беларускай школы, проці зьмяншэньня падаткаў ды праводзяць законы аб надзяленьні польскім асаднікам беларускіх земляў.

Але ня ўсе так-жа сьпіскі ёсьць запраўды беларускімі, якія сябе беларускімі называюць.

Гэтакім ёсьць сьпісак „Беларускага Пасольскага Сялянска-Работніцкага Клюбу „Змаганьне“, мэтай каторага ёсьць нішчыць усе тыя беларускія вартасьці, якія крывавым потам у працягу дзесяткаў гадоў намі здабыты. Паслы гэтага Клюбу ў цяперашнім Сойме сьвядома й адкрыта выступаюць проці ўсяго беларускага. Яны, між іншым, у сваей газэце „На варце“ пішуць, што **нам ня трэба беларускіх школаў** і г. д. Запраўды, гэтак пісаць могуць толькі людзі што, прадалі да ніткі сваю душу.

Ня лепшым ёсьць также сьпісак № 18, т. зв. „Блёку Нацыянальных Меншасьцяў“. З гэтага сьпіску праходзяць у Сойм людзі, якія з беларускасьцю ня маюць нічога супольнага, а адзінай іх мэтай ёсьць, каб нажыцца з пасольскага мандату. Кандытаты з гэтага сьпіску, падтрымліваныя жыдоўскай буржуазіяй, з якой разам і кандыдуюць, глядзяць праз пальцы на народнае гора й цемру. Яны, каб лепей атуманіць сялянства, разводзяць усякую брудную лаянку на запраўдных беларускіх працаўнікоў, якія дзесяткі год ахвярна працуюць над беларускім адраджэньнем. Вось-жа нашай павіннасьцяй ёсьць не галасаваць і за гэтыя два сьпіскі.

А ўсе тыя, хто мае ў сваёй душы хоць крыху беларускае сьвядомасьці і відзіць цьвярозым вокам горотнае жыцьцё нашага селяніна, безьзямельле й малазямельле, цяжар вялікіх падаткаў—павінны дружна галасаваць за праўдзівы беларускі сьпісак—„Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку“ № 45. Паслы з гэтага сьпіску і ў цяперашнім Сойме найболей працавалі на карысьць нашага народу.

Кандыдаты, што стаяць на гэтым сьпіску, гэта ніхто іншы, як сыны беларускіх сялян і работнікай, якія ўсю сваю працу пасьвяцілі для народнае справы.

Дык беларускія сяляне й работнікі! У дзень 25 мая сёлета ўсе як адзін ідзеце на выбары і галасуйце толькі за свой сьпісак „Беларускага Сялянска-Работніцкага Блёку“ № 45. **Васковы.**

## Як арганізаваўся ў Ашмяне комітэт № 18.

(Ашмяна).

Былы пасол з № 18, А. Стэповіч, прыехаўшы ў Ашмяну 25 красавіка, пачаў арганізаваць „выбарны комітэт № 18 „Блёку Нацыянальных Меншасьцяў“. Комітэт гэны ён „з'арганізаваў“ і прозьвішчы сяброў „комітэту“ надрукаваны ў № 16 „Biełaruskaje Krynicy“. У тым-жа нумары „Biełar. Krynicy“ надрукована ўжо й адозва комітэту. Але ніхто можа, апрача Ашмянчукоў, ня ведае, як тварыўся гэны „комітэт“ і што ён сабой прадстаўляе. Стэповіч у Ашмяне 25 красавіка абы каго зацягваў у карчму Шалюбскага, паіў гарэлкаю і прапанаваў п'яным людзём падпісаць адозву і згадзіцца належаць да „Комітэту“. Ахвотнікаў на гарэлку знайшлося даволі (ў Ашмяне іх заўсёды хватае!), але запісацца ў комітэт мала згадзілася. Прыйшлося падпісаваць пад адозвай навет **няпісьменных**, як старшыню „комітэту“ Ст. Саладуху. З усіх „сяброў комітэту“ блізу што ніводнага няма сьвядомага беларуса, ці, іншымі словамі, блізу ўсе яны ня лічаць сябе беларусамі. У комітэт „выбраны“ за сэкрэтара А. Краўчонак, чалавек, аб каторым ніхто ў Ашмяне і ваколіцах добрага слова ня скажа. Спаміж мноства здольнасьцяў Краўчонкавых ведама і ўменьне належыць да розных партыяў. Да якой толькі партыі ён не належыў! Належаў да „Вызваленьня“, эндэцыі, „Пяста“, у 1928 г. агітаваў у Браслаўскім пав. за № 18 (у Ашмянскім ня мог агітаваць, бо тут яго знаюць), потым належаў да П. П. С. лявіцы, адкуль быў вылучаны за грашавыя недаразуменьні“. Але за якісь час ён апынуўся ў „товарищах“ Дварчанінавых і шчыра памагаў апошняму бараніць паводле рэцэпту Сталіна „калгасы“ ды лаяць беларусаў. Не пакідаючы Дварчаніна, ён увайшоў у камітэт № 18. Але мусіць Дварчанін частуе лепей, бо, як чуваць, Краўчонак разам з скарбнікам комітэту Фр. Дзятловічам падаў у той-жа дзень у клюб „Змаганьне“ заяву аб выхадзе з комітэту № 18. Дык прадстаўляць комітэт № 18 астаўся адзін **няпісьменны** яго старшыня Ст. Саладуха. Фактычныя арганізатары „Камітэту“ ведалі, якія гэта людзі, каторых гарэлкай уцягвалі ў „комітэт“. Ведалі також, хто такі Краўчонак, і дзеля таго надрукавалі ў „Biel. Krynicy“ перакруціўшы яго прозьвішча на „Крэчонак“, бо праўдзівае страшна компромітавала-б.

Мы радзілі-б „васемнастцы“ тварыць свае „выбарныя камітэты“ крыху інакшым спосабам: замест паіць гарэлкай ды перакручаваць прозьвішчы, лепей проста павыдумляць прозьвішчы няіснуючых людзей і запісаць іх у „комітэт“. Гэта быў-бы найтаньнейшы й наймацнейшы спосаб тварэньня комітэтаў № 18-га, ніхто тады з комітэту ня выступаў-бы.

**М. і Р. Ашмянскія.**

## Не прадамося!

(М. Маладэчна).

Як мы даведаліся, 24-га красавіка сэн. В. Багдановіч, прыехаўшы ў Маладзечна, даў 20 зал. Івану Кісялю з Пляцу 3-га Мая № 23, каб той раздаваў адозвы № 18. Сэн. Багданавіч абяцаў, што калі прывязе яшчэ болей адозваў, дык дасьць шмат болей грошаў за раздаваньне. Кісель, як бедны чалавек, згадзіўся на гэта па сваёй несьвядомасьці й цямноце. Відаць сэн. Багдановіч баіцца сам даваць селяніну свае адозвы, баіцца, бо ведае, што нічога добрага ў гэных адозвах няма[ш]ака.

Відаць, і самыя аўтары адозваў „васемнасткі“ чуюць, што іхнім словам нельга даваць веры, дык яны й сыпяць грошы такім несьвядомым, як Кісель, думаючы пры іх помачы абдурыць выбаршчыкаў і правясьці ў Сойм свайго Більдзюкевіча.

Не, гэта ім ня ўдасца! Бо ў Маладэчне толькі знайдзецца мо' які адзін цёмны чалавек, каторы за 20 зал. будзе служыць сьляпым інструмэнтам у руках чужых нашаму народу людзей, але іншыя—такія, каторых сумленьне ня купіш ні за якія грошы і каторыя на такія грошы глядзяць з агідай.

**Сусэд Я. Кіселя з Пляцу 3-га Мая.**

## Беларускі спэктакль.

27 красавіка сёлета ў в. Вялікае Сяло, каля Маладэчна адбыўся беларускі спэктакль. Гулялі „Птушку Шчасьця“ Аляхновіча і „Дзядзька Якуб“ Я. Коласа. Артысткі й артысты гулялі вельмі добра, хоць гэтыя рэчы адыгрываліся яшчэ першы раз. Ладзіў гэты спэктакль драматычны Гурток Бел. Гасп. Зьвязу ў м. Маладэчне, каторы ў нядзелю 11-га мая едзе гуляць гэтыя самыя рэчы ў м. Краснае, Малад. павету.

**Вялікаселец—Глядзельнік.**

# Беларусы ў Латвіі.

Як падае ў № 4 „Наша Доля“. 23 сакавіка с. г. ў памешканьні Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі адбыўся ўрачысты народны акт-спэктакль, прысвячаны 12 угодкам абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Акт адчыніўся пяяньнем актавай песьні, пасьля чаго дырэктар гімназіі Сахараў зрабіў даклад на тэму: „Становішча беларусаў у XIX і XX стагодзьдзі“, у якім правёў думку, што, ня гледзячы на культурна-нацыяльны ўціск беларускага народу ў былой Расеі, беларусы ня згубілі свайго нацыянальнага твару, прарабілі падрыхтаваўчую працу да акту 25 сакавіка 1918 г. і зьберaглі сваю жывую сілу і свае культурныя цэннасьці.

Пасьля дакладу Сахарава былі выкананы хорам латвійскі і беларускі гімны, некалькі беларускіх песень і былі прадэклямаваны некалькі вершаў.

Потым вучыцель гімназіі Якубецкі падрабязна азнаёміў прысутных з першым беларускім кангрэсам 5 — 17 сьнежаня 1917 г. і яго вынікамі, прывёўшымі да акту 25 сакавіка 1918 г.

У заключэньне Дзьвінскім Аддзелам таварыства беларускага тэатру была пастаўлена п'еса „Жаніцьба па радыё“.

# Беларусы ў Чэхаславацыі.

7-га сакавіка Беларуская Калёнія ў Празе, пры удзеле запрошаных гасьцей, ладзіла ўрачыстую акадэмію з прычыны 80-лецьця прэзыдэнта Чэхаславацкае рэспублікі Т. Г. Масарыка. Былі прачытаны два рэфэраты і паслана прэзыдэнту прывітальная тэлеграма.

25-га сакавіка беларуская калёнія урачыста сьвяткавала дванаццатыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску. Прывітаньня былі прысланы з Коўны і з Падэбрад ад гуртка беларускіх студэнтаў. Прадстаўнік украінскага студэнства ад арганізацыі „Cesus“ і прадстаўнікі Пражскіх беларускіх арганізацыяў віталі асобна. Былі прачытаны два рэфэраты д-рам Т. Грыбам на тэму: „На шляху вызваленьня і адраджэньня Беларускага Народу“ і канд. філ. Фр. Грышкевічам: „Зара незалежнасьці Беларусі ў люстры Беларускае літэратуры“.

**М. В.**

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце ў Вашай паважанай газэце „Наперад“ зьмясьціць ніжэйшае:

„Беларуская Крыніца“ у № 16 з дня 30-IV-30 у цэлым радзе мейсц зьмясьціла сьвядома фальшывыя весткі адносна майго веча ў м. Вышняве дня 23. IV. 30 г., што і мушу падаць да агульнага ведама. Ня буду тут пералічаць усіх беспадстаўных і подлых закідаў, робленых мне „Беларускай Крыніцай“, як полёнофіл, дэфэнзыўшчык і т. д. і т. д.; такія рэчы прыходзілася ўжо ад „Бел. Крыніцы“ атрымліваць ня раз усім тым, хто толькі не сьпявае пахвальных гымнаў на чэсьць Хадэцыі. Але зьвярну тутака ўвагу на адзін толькі факт, іменна, што, як піша „Бел. Крыніца“ падчас маей прамовы на вечы ў м. Вішняве беларускае сялянства зрабіла на мяне напад і застаўляла мяне гаварыць папольску.

Вось-жа ў імя праўды заяўляю, што падчас вышуспомненай маей прамовы кучка польскіх асаднікаў і дэфэнзывы зрабілі на мяне напад і застаўлялі гаварыць па польску, крычалі, што тут „czysta polska ziemia“. I ў гэты-ж самы мамэнт тысячная таўпа беларускага сялянства, абураная на дзікія паступкі польскіх асаднікаў, ды пагражаючы ў той бок, адкуль нясьліся іх крыкі, прост сілай змушала мяне гаварыць і **толькі ў беларускай мове**. I так, калі паліцыя веча разьвязала, то і тады вграмаднай таўпой акружалі мяне сяляне, выказываючы сваю глыбокую пашану, так што паліцыя была змушана адганяць ад мяне народ штыхамі і пратаколамі. Што гэта было так, а ня гэтак як піша „Бел. Крыніца“, можа пасьведчыць тая-ж тысячная таўпа беларускага сялянства, аб якой толькі што ўспомніў.

I дзеля гэтага фальшывае камэнтаваньне „Бел. Крыніцай“ паданых вышэй фактаў вельмі яскрава сьведчыць аб яе „незалежніцка-беларускім“ і „хрысьціянскім“ абліччы, бо ўзапраўды, пісаць, што сьвядомае беларускае сялянства змушае беларуса гаварыць папольску не адважваецца ўжо пісаць і польская прэса, за выняткам можа, „Дзеньніка Віленскага“.

**Ст. Станкевіч.**

Вільня 3.V. 30 г.

# Усячына.

— Рымскі папа загадаў зрабіць тэлефоны ўва ўсім сваім „гаспадарстве“. Тэлефонная сетка „Citta del Vaticano“ зьмяшчае ўсяго 800 апаратаў.

Цікаўна, што тэлефонавы апарат у самога Папы зроблены **з чыстага золата** дый аздоблены папскім гэрбам з чырвонага каралю... Як бачым, папа не адстае ад веку дый любіць збыткі. Бо-ж сколькі галодных можна было-б накарміць гэтым золатам з папскага тэлефону!..

— Насяленьне Францыі бясспынна зьмяншаецца ня гледзячы на ўсе меры, тасаваныя ўладамі.

У францыі існуе спэцыяльнае „Таварыства дапамогі павялічэньню насяленьня краю“. У справаздачы за 1929 г. Галоўная Управа гэтага Таварыства б'е трывогу:

Пройдзе яшчэ некалькі гадоў, і францыя пачне рэгулярна траціць па 200.000 асоб у год. Гэта-ж варожыць проста нацыянальную пагібель Францыі, бо-ж у той самы час суседзі Францыі ўсьцяж памнажаюцца. Італія узрастае штогодна на 350.000, Нямечынна 375.000, навет Гішпанія—на 200.000. „Нас хутка раздушаць нашыя суседзі“, крычыць Таварыства ў жаху.



Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.

